

# Беларус

«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова». — *Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

№ 426 Жнівень 1995
Год выд. 44

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## *ЗАМЕЖНАЯ ПАЛІТЫКА РБ І БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА*

**Па сьлядах выступленьня сп. Аляксандра Лукашэнкі**

Трэцяга жніўня сёлета прэзыдэнт Лукашэнка выступіў на паседжаньні калегіі Міністэрства замежных спраў з прамовай на тэму замежнай палітыкі Беларусі. Не памінуў ён сказаць і колькі слоў пра замежных беларусаў. У афіцыйным паведамленьні пра ягонае выступленьне сказана:

«Важнейшым назваў Аляксандр Лукашэнка пытаньне аб рабоце з выхадцамі зь Беларусі, якія пражываюць за мяжой. Прэзыдэнт лічыць, што тут пераважае аматарскі, каньюнктурны падыход. За мяжой пражывае некалькі мільёнаў чалавек, для якіх наша рэспубліка зьяўляецца радзімай іх саміх або іх продкаў. Многія зь іх, адзначыў Прэзыдэнт, гатовы аказаць садзейнічаньне ў разьвіцьці міжнародных сувязей нашай рэспублікі». («Звязда», 5.08.95)

Паняцьце пра «некалькі мільёнаў» замежных беларусаў мае два аспэкты: беларусы на Ўсходзе (СНД) і беларусы на Захадзе.

Цяжка сказаць, наколькі азнаёмлены сп. Лукашэнка зь беларусамі на Ўсходзе, са станам беларускіх выхадцаў у Расеі, Казахстане, на Ўкраіне ды ў іншых дзяржавах СНД і што ён ведае пра іхную гатовасьць дапамагаць Беларусі ў наладжваньні міждзяржаўных сувязяў. Ведама толькі, што дыпляматычныя прадстаўніцтвы РБ (прыкладам, у Маскве) ніякага зацікаўленьня арганізацыйным жыцьцём беларускай дыяспары ў Расеі не праяўляюць. Пра гэта гаварылася ў Менску ў 1993 годзе на Першым зьезьдзе беларусаў сьвету, які, дарэчы, сп. Лукашэнка абазваў "зьездам паліцаяў". Ведама таксама, што Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» ў Менску, якое намагаецца наладжваць і пашыраць сувязь паміж беларусамі, раскіданымі па цэлым сьвеце, ня мае належнае падтрымкі з боку беларускага ўраду, наадварот — менскія ўлады хочуць пазбавіць «Бацькаўшчыну» памешканьня, безь якога дзейнасьць згуртаваньня будзе наагул немагчымай.

Што-ж да беларусаў у заходніх краінах, дык тут у сп. Лукашэнкі пагляд чыста аматарскі. Сам ён нідзе на Захадзе з выхадцамі зь Беларусі не сустракаўся. Не выглядае, каб ён кансультаваўся пра беларускую эміграцыю з былым міністрам замежных спраў Беларусі Пятром Краўчанкам, ці кіраўніком беларускае місіі пры ААН Генадзем Бураўкіным, ці былымі і сучаснымі пасламі РБ у заходніх сталіцах, якія ў тэй ці іншай меры абазнаныя зь беларусамі на Захадзе. Прэзыдэнт Лукашэнка мае сваіх даверaных асобаў, азнаёмленасьць якіх з вонкавым сьветам сумлеўная і ў якіх паняцьце пра беларускую эміграцыю вельмі мутнае. І таму згаданы Лукашэнкам факт, што недзе на Захадзе жывуць мільёны выхадцаў зь Беларусі ды іхных нашчадкаў (хто і дзе іх дакладна палічыў?), нічога канкрэтнага ня кажа і ніякага практычнага значэньня для замежнай палітыкі Беларусі ня мае.

Памагаць менскаму ўраду разьвіваць міжнародныя сувязі, на што разьлічвае сп. Лукашэнка (калі ён ня хоча выглядаць наіўным аматарам), могуць толькі згуртаваныя, арганізаваныя грамадзяне заходніх дзяржаваў, палітычна пісьменныя і нацыянальна сьведамыя, якім залежыць на тым, каб край іхнага паходжаньня, Беларусь, станавіўся на ногі як сувэрэнная дэмакратычная дзяржава. І гэткія арганізацыі, групы людзей дый паасобныя адзінкі ёсьць. Яны і ў Англіі, і ў Канадзе, і ў Злучаных Штатах, і ў Аўстраліі, і ў іншых краінах. Усіх гэткіх людзей налічваюцца тысячы, дзесяткі тысячаў. Але Лукашэнкава прэзыдэнцтва выклікае ў іх, як правіла, адмоўныя пачуцьці. Ці чуў «бацька» беларусаў за год свайго правадырства слова падтрымкі ад беларусаў далёкага замежжа на адрас свае палітыкі? Нешта ня відаць было такога падтрымaньня ані ў «Голасе Радзімы», ані ў прэзыдэнцкай «Советской Белоруссии». Дык пра якіх тады суродзічаў на Захадзе, што будуць «аказваць садзейнічаньне ў разьвіцьці міжнародных сувязей» гаворыць прэзыдэнт Лукашэнка? Можа пра нашчадкаў калішніх «тутэйшых» — маласьведамых сялянаў, што ехалі на заработкі ў Амэрыку ці Аргентыну на пачатку гэтага стагодзьдзя? Дый гэным нашчадкам, калі хто зь іх цікавіцца Беларусяй, не па сабе ад таго, што вырабляе сп. Лукашэнка і ягоная каманда разам з амонаўцамі. Грамадзянам заходніх дзяржаваў, якія сочаць за паведамленьнямі сродкаў масавай інфармацыі пра падзеі на Беларусі, сорамна і трывожна за гэтую краіну, за эканамічнае бязладзьдзе, аўтарытарызм і ваеншчыну, грубую непашану з боку афіцыйных уладаў да народнае культуры, нацыянальнае гісторыі, прынцыпаў дэмакратыі і дзяржаўнае незалежнасьці.

Нядаўна брытанская Гэльсінская праваабарончая група апублікавала рапарт аб сёлетніх парляманцкіх выбарах і рэфэрэндуме ў Беларусі. Брашура загалоўленая: **«Беларусь: канец незалежнасьці?»**. Як разумець гэтае пытаньне ў сьвятле таго, што сказаў сп. Лукашэнка на згадваным паседжаньні калегіі Міністэрства замежных спраў: **«Беларусь ёсьць і застанецца сувэрэннай дзяржавай»**?

Выглядае, што беларускі прэзыдэнт, старой звычкай з часоў свае палітрукоўскае работы, ужывае словы ў іхным вывіхнутым значэньні, калі ён, гаворачы пра «сувэрэнітэт» Беларусі, паніжае адначасна на кожным кроку нацыянальную годнасьць беларусаў, іхную мову і гістарычную сьведамасьць як аснову адбудовы дзяржаўнасьці.

У згаданым рапарце брытанскае Гэльсінскае групы, між іншага, сказана (ст. 39): «Клімат непашаны да парляманту, спароджаны прэзыдэнтам, выклікае трывогу за будучыню парляманцкае дэмакратыі і падмацоўвае страх, што краіна ідзе ў кірунку да жорсткага прэзыдэнцкага рэжыму».

Гэткая ацэна палажэньня на Беларусі аніяк не будзе спрыяць рэспубліцы дасягнуць адзін з галоўных аб'ектаў замежнае палітыкі, пра які гаварыў сп. Лукашэнка на калегіі МЗС: «стварэньне капіталу палітычнага даверу да Беларусі як да эканамічнага партнёра».

Каб магчы стварыць такі «капітал», прэзыдэнт Лукашэнка і ягоная каманда павінны ставіцца з большай пашанай да правоў чалавека, правоў палітычнае апазыцыі, свабоды сродкаў масавае інфармацыі ды нацыянальных вартасьцяў беларускага народу, якімі даражыць пераважная бальшыня выхадцаў зь Беларусі, дзе-б яны ні жылі, на Ўсходзе ці на Захадзе.

**Янка Запруднік**

## «НАЗАД У ІМПЭРЫЮ ЗЛА?»

Артыкул ведамай брытанскай журналісткі Веры Рыч пад заг. **«Назад у імпэрыю зла?»** з падзагалоўкам «Амбітны дзяржаўны лідэр зьневажае канстытуцыю свае краіны, заменьвае сьцяг ды пачынае выпады супраць каталіцкай царквы — усё, як выглядае, у намаганьні аднавіць сувязі з былым Савецкім Саюзам» зьмешчаны ў уплывовым амэрыканскім часапісе **The Catholic World Report** (July 1995). Артыкул ілюстраваны. На адным са здымкаў паказаны член беларускага парляманту (др. А. Шут) зь сінякам на сьпіне ад лукашэнкаўскіх амонаўцаў, што гвалтам выдалялі ў красавіку сёлета парлямантарыяў-галадоўшчыкаў з будынку Вярхоўнага Савету.

**Васіль Зуёнак**

### РАЗЬВІТАНЬНЕ КАЛІНОЎСКАГА

Хто адгадае і хто адкажа, —
Пакуль маўчыць народ,
Якая праўда на сэрца ляжа
Мне праз тысячу год?

Адно толькі знаю: Бог нас пакінуў.
Страшней пятлі і турмы,
Калі мы ўсё яшчэ не краіна:
То край, то ўскраіна мы.

Адно толькі знаю: паўстаць
за волю —
Сваю — павінен народ.
Іначай вольным ня быць ніколі.
Рэкі ўзрываюць лёд.

Шляхі ня купляюць за пяць
капеек —
Бяруць іх жыцьцём сваім.
Бунт не на плошчы — у сэрцы сьпее
І памірае ў ім.

Пакуль застаецца з нашага стану
Хоць бы адзін жывы,
То ня лічыце справу прайгранай.
Народ прад'явіць правы.
1983

## ЗЬ ЯКОЙ РАСЕЯЙ ХОЧА ЯДНАЦЦА ЛУКАШЭНКА?

Газэта «Советская Белоруссия» за 3-га жніўня сёлета зьмясьціла інтэрв'ю карэспандэнта Міхаіла Залатагорава зь Еленай Бонэр, жонкай ведамага праваабаронцы, Андрэя Сахарава. Сп-ня Бонэр сама шмат увагі аддае праваабарончай справе. Яна таксама дапамагае менскаму коледжу імя Андрэя Сахарава, дзе рыхтуюцца кадры спэцыялістаў у пытаньнях радыяцыйнае экалёгіі.

Ніжэй падаём урывак зь інтэрв'ю Е. Бонэр, зьмешчанага, дарэчы, пад загалоўкам: «У каго ўлада, той і дэмакрат».

**Карэспандэнт «СБ»:** Ведама, што нацыстаўскія юрысты абвесьціці любоў да фюрэра юрыдычнай катэгорыяй. Расейскія праўнікі, на мой погляд, ніяк ня могуць намацаць новую ідэялёгію, дзеля гэтага армія становіцца палітычнай сілай.

**Е. Бонэр:** Вы маеце рацыю, армія ўжо стала палітычнай сілай, пры гэтым эканамічна ідзе калясальнае расславанне грамадзтва на жабракоў і вельмі багатых. Расейцы купляюць дамы і землі ў Ніццы, Англіі, Амэрыцы. І гэтыя-ж расейцы пры маўклівай згодзе Ельцына падтрымваюць армію. **Мы коцімся ў лацінаамэрыканскую паліцыйна-ваенізаваную дзяржаву»** *(падкрэсьленьне наша — «Беларус»).*

Ці гэта з такой Расеяй хоча Лукашэнка зьяднаць Беларусь?

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. за год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПАСЬЛЯ РЭФЭРЭНДУМУ

Мінула пару месяцаў ад камітрагічнага рэфэрэндуму аб другой дзяржаўнай мове, дзяржаўнай сымболіцы ды эканамічнай інтэграцыі з Расеяй. Зразумела, рэакцыя дыяспары была вельмі разнаякая, у асноўным дэпрэсія.

Прыгожы сон аб вольнай і незалежнай дзяржаве, якая сама рашае свой лёс; бел-чырвона-белы сьцяг, які так горда красаваў у Беларусі; Пагоня, якая вярнула стагодзьдзі гісторыі, — былі патоптаны брутальна не акупантамі, але сваімі людзьмі, маскоўскімі янычарамі. Газэта «Таронта Стар» за 23 ліпеня 1995 г. піша, што расейскія нацыяналісты трывожацца аб лёсе расейскай дыяспары на тэрыторыях новапаўсталых дзяржаў. Паводле расейскай статыстыкі налічваецца 24.587.000 расейцаў па-за граніцамі Расейскай Фэдэрацыі. З гэтага 1.347.000 расейцаў жывуць на тэрыторыі Беларусі (13,2% ад усяго насельніцтва Беларусі). Чаго статыстыка ня ўлічыла, гэта, што лік янычараў на Беларусі адносна шмат большы, чымся ў іншых дзяржавах.

Калі нават браць пад увагу, што рэфэрэндум ня быў запраўдным адлюстраваньнем волі народу (ведамыя махінацыі з выбарчымі урнамі і поўны кантроль сродкаў масавай інфармацыі былымі камуністамі ды янычарамі Лукашэнкі, вернымі слугамі Масквы, пабоі дэпутатаў апазыцыі), усё-ж такі высокі працэнт — ад 75 да 80 — супраць незалежнасьці зрабіў на мяне вельмі ад'емнае ўражаньне. Так як на працягу 50 гадоў я горда трымаў галаву сярод канадыйцаў ды маіх сяброў па ўнівэрсытэце, паміж маімі сябрамі па прафэсіі, дык цяпер мне стала сорамна за мой народ. Сорамна і крыўдна, што так глыбока Масква пакалечыла нашых людзей. Праўда, я ніколі не давяраў янычарам. Я адмовіўся прыняць удзел у зьезьдзе беларускага замежжа ў Менску ў ліпені 1993 году. Прычыны маёй адмовы былі падany ў лісьце, які быў апублікаваны ў ЛіМе. Мая матывацыя была, што Беларусь ёсьць надалей БССР, якой мы не прызнавалі на працягу 73 гадоў і не прызнаём цяпер. Гэта не значыць, што я адрокся ад далейшага змаганьня за правы Беларусі, але мне возьме крыху часу перагледзець пазыцыі ды падрыхтаваць плян далейшага дзеяньня.

Амаль тры пакаленьні нашага народу нарадзіліся й выраслі ў няволі. Слаўнай гісторыі Беларусі ня ведалі. Мова беларуская была для іх чужая і, на вялікі жаль, яшчэ ўсё чужая. Прыпамінаюцца словы Хрыста: Даруйце ім, бо яны ня ведаюць што робяць. Магчыма, прыдзецца гэта прыняць, але цяжка, немагчыма даравацъ Лукашэнку і яго ным янычарам, якія вельмі добра ведаюць, што робяць. Магчыма, прыдзецца з гэтым пагадзіцца, але гісторыя ім гэтага не даруе. Вы, спадарове, змаглі спыніць ход падзеяў, але ня ў сілах вам будзе іх устрымаць.

**Б. Рагуля**

## ЧЫЯ РУКА КІРУЕ ЛУКАШЭНКАМ?

Карэспандэнт менскае газэты «Фэміда» (№ 22 за 22.05.95) паставіў старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі Мячыславу Грыбу пытаньне пра адстаўку генэральнага пракурора Беларусі Шаладонава. Адстаўку Шаладонава прыняў не старшыня ВС, як гэта прадбачыцца законам, а прэзыдэнт Лукашэнка.

**Карэспандэнт:** Я вельмі ўважліва перагледзеў разьдзел 4-ты (прэзыдэнцкі) Асноўнага закону і не знайшоў там нават слова «пракурор». Гэта значыць, пракуратура наагул ня мае дачыненьня да прэзыдэнта, ні пра якія назначэньні і звальненьні ім гэтай катэгорыі юрыдычных чыноўнікаў ня можа быць і мовы. Яны, так-бы сказаць, выключная намэнклятура Вярхоўнага Савету. Увесь цывілізаваны сьвет ушаноўвае закон, у нас-жа ён паранейшаму нагадвае легендарнае дышла. Адкуль, вы думаеце, ідзе такое стаўленьне да закону?

**М. Грыб:** Мне здаецца, што моцны ўплыў на кіраўніцтва рэспублікі аказвае Масква, дзе, як вы ведаеце, законы часамі трактуюцца вельмі своеасабліва. Думаю, прыклады гэтага ва ўсіх на памяці.

## УРАЖАНЬНІ ЗЬ МЕНСКУ

На дзень Незалежнасці, 27-га ліпеня, мы з дачкой ды сяброўкай па ўнівэрсытэце пайшлі на плошчу Незалежнасьці. Туды, дзе, па чутках, Народны фронт аб'явіў, што, ня гледзячы на забарону Лукашэнкі, яны правядуць мітынг. Спачатку плошча была пустая, толькі там-сям групы міліцыі ды іхнія «газікі» стаялі акцэнтам, намякаючы на нешта нязвычайнае.

На плошчу прыйшлі дзеці. Прыгожа апранутыя, яны ішлі ў парах зь беларускай песьняй. Было іх лікам пад восемдзесят і выглядалі яны як на парадзе. Зь імі ішлі трое дарослых. Да гэтай групы адразу падбеглі афіцэры і загадалі адвесьці дзяцей. Падышлі й да нас, сказалі, што чакаюць тут сёньня кепскіх спраў, і мы павінны адсюль пайсьці. Я спыталася, ці гэта загад, ці парада. Яны сказалі, што апошняе, тады я ім падзякавала і мы пайшлі ў куток, дзе ўжо стаяла невялічкая група зь бела-чырвона-белымі сьцягамі.

Скора пад'ехалі «варанкі». Міліцыя і ваенныя ўсё падцягвалі свае сілы. Ужо здавалася, што іх больш за БНФ. Але бээнэфаўцы таксама расьлі, амаль кожны зь іх зь веяў сваім асабістым сьцягам. З абодвух бакоў пачаліся выгукі: «фашысты!» Спачатку гэта было нават сьмешна. Але сьмех адразу зьнік, калі ўбачылі, як міліцыя рэагуе на лёзунг «Жыве Беларусь!» Гэта было страшэнна! Яны хапалі людзей і цягнулі ў варанкі. Хлапец, якому мабыць сямнаццаці ня было, папаўся за гэты «крымінал» першы. Было балюча глядзець, як яго цягалі за валасы, а ён маўчаў... Крык ішоў ад жанчын, якія прыкрываліся дзецьмі, калі іх хапалі за словы «Жыве Беларусь!» Два разы да мяне падскоквалі з пагрозамі, каб не рабіла здымкаў, але фотаапарату не адабралі. Раптам усё сьціхла. Прыйшоў атрад амонаўцаў, ачапіў натоўп і павёў на месца, дазволенае Лукашэнкам для мітынгу.

Мы ішлі з натоўпам, а людзей станавілася ўсё больш і больш. Яны сьцякаліся з усіх бакоў. Сэрца шчымела ад болю за іх крыўду і ў той-жа час раджала надзею, што людзі, якія ў такіх умовах жадаюць жыцьця Беларусі, дачакаюцца сваёй мары. **К. Матылевіч**

## АМЭРЫКАНЦЫ БАЧАЦЬ, КУДЫ ЦАЛЯЕ ЛУКАШЭНКА

Хоць і прэзыдэнт Лукашэнка і прэм'ер Чыгір гавораць пра «незалежнасьць», «сувэрэнітэт» Беларусі, амэрыканскія назіральнікі бачаць, што хаваецца за гэтай слоўнай шырмай. У бюлетэні кангрэсавай Камісіі па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе — Commission on Security and Cooperation in Europe. *DIGEST, vol. 18, No. 4, May 1995)* — чытаем:

«Вынікі рэфэрэндуму ў Беларусі — гэта перамога прарасейскай, экс-камуністычнай эліты, якая спрыяе эканамічнаму, калі не палітычнаму саюзу з Расеяй, хоць некаторыя беларускія ўрадаўцы цьвердзяць, што Беларусь захавае незалежнасьць. Аднак, не прайшло і тыдня пасьля рэфэрэндуму, калі 19 травеня расейская Дума прагаласавала 249 галасамі да нуля, каб пачаць рыхтаваццa да ўсерасійскага рэфэрэндуму аб аб'яднаньні Расеі зь Белрусяй. Таксама беларускі прэм'ер-міністар Міхаіл Чыгір абвесьціў колькі дзён па рэфэрэндуме, што Масква перасуне мытную мяжу на заходнія рубяжы Беларусі, і, як паведамляюць, расейскія і беларускія памежнікі супольна ўжо ахоўваюць беларускую мяжу».

А ў бюлетэні вашынгтонскае Джэймстаўнскае Фундацыі (*MONITOR. A Daily Chronicle of the Post-Soviet States, vol. 1, No. 72, August 11, 1995),* пад заг. «Лукашэнка як усходнеславянскі аб'яднальнік?», падаецца:

«Грунтуючыся на сьвежай інфармацыі зь Менску, газэта 'Комсомольская правда' за 8 жніўня і 'Общая газета' за 10-16 жніўня (апошняя ў артыкуле прэстыжнага аналітыка Дзьмітрыя Фурмана) пішуць, што беларускі прэзыдэнт Аляксандар Лукашэнка спадзяецца стварыць палітычны саюз Беларусі з Расеяй ды стаць прэзыдэнтам задзіночанай дзяржавы. Артыкулы спасылаюцца на паказальнікі Лукашэнкавай амбіцыі сыграць ролю аб'яднальніка ўсходнеславянскіх народаў і магчымыя крокі да выстаўленьня свае кандыдатуры ў будучых расейскіх прэзыдэнцкіх выбарах».

Трэба адзначыць тут, што падобныя здогады і прагнозы пра Лукашэнкавы намеры выказваліся ўжо ў беларускім друку — прыкладам, у менскай газэце «Свабода» колькі месяцаў таму.

## *РАСЕЙСКАЯ ПЭРСПЭКТЫВА: АД БЛАГОГА ДА ГОРШАГА*

Адзін зь вядучых вашынгтонскіх саветолягаў, Пол Гоўбл, галоўны рэдактар англамоўнага тыднёвіка «Прызма» (у 11-м сёлетнім нумары за 14 ліпеня) піша, што ад часу, калі расейскі прэзыдэнт Барыс Ельцын здушыў танкамі супраціў у Вярхоўным Савеце ў кастрычніку 1993 году, палітычная ўлада ў Расеі перамяшчаецца ад заканадаўчага органу да выканаўчага.

Свой аналіз палажэньня, базаваны на паведамленьнях расейскіх інфармацыйных крыніцаў апошняга месяца, даследнік канчае гэткім малюнкам:

«Сярэдняя працягласьць жыцьця сярод мужчын зьнізілася да 57 гадоў, і хваробы, што выглядалі пераможанымі, сталіся хранічнымі;

інфляцыя працягвае быць вышэйшай, як заработкі, ды ўсё больш работнікаў і нават жаўнераў застаюцца месяцамі без зарплаты;

накладзеныя Масквою тарыфы на харчы рэзка паднялі цэны па расейскіх гарадох;

электрычныя кампаніі спыняюць пастачаньне электраэнэргіі прадпрыемствам і нават цэлым ваенным акругам, бо фірмы і ўрадавыя ўстановы не аплачваюць рахункаў;

Ураджай сёлета будзе на 10 мільёнаў тон меньш, чымся катастрафічны ўзровень леташняга году – сытуацыя, якая змусіць Маскву выдаткоўваць валюту або мець справу з галадаючымі людзьмі».

## ЗАБАСТОЎКА Ў МЕНСКУ Й ГОМЛІ

Як падало зь Менску 18 жніўня агенцтва Ройтэра, там пачалася папярэдняга дня забастоўка працаўнікоў гарадзкога мэтро (падзямкі). Прычына забастоўкі — нявыплачваньне заработнае платы ад чэрвеня месяца. Забастоўшчыкам, якім закон забараняе баставаць, начальства пагразіла звальненьнем, калі яны ня вернуцца на працу на працягу 10 дзён. У падтрымку менскіх транспартавікоў ня выйшлі на працу кіроўцы аўтобусаў у Гомлі. Прэзыдэнт Лукашэнка загадаў прывезьці на месца менскіх забастоўшчыкаў спэцыялістаў з Воршы і Масквы.

## ЛЁНДАНСКАЯ ГАЗЭТА ПРА ЦЭНЗУРУ Ў БЕЛАРУСІ

Газэта *The Times Higher Education Supplement* (30 June 1995) зьмясціла артыкул Веры Рыч пра «эканамічную цэнзуру» ў Беларусі. У артыкуле названыя некаторыя кнігі, зьнятыя са сьпіскаў кніг заплянаваных да друку дзеля больш рацыянальнага, быццамбы, размеркаваньня бюджэтных сродкаў. Бальшыня скасаваных кніг мае дачыненьне да беларускай гісторыі і традыцыяў, піша газэта. Спыненае, між іншага, выдаваньне далейшых тамоў «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы». Лукашэнкаў наступ на беларускую мову, такім чынам, працягваецца і паглыбляецца.

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У ВАШЫНГТОНЕ

17-га ліпеня 1995 году прэзыдэнт Клінтан падпісаў праклямацыю, якая абвесьціла тыдзень, што пачынаўся 16-га ліпеня, Тыднем Паняволеных Народаў. Падпісаньне праклямацыі было ўрачыста адзначанае банкетам, які наладзіў Нацыянальны Камітэт Паняволеных Народаў у будынку Фундацыі «Гэрытэдж» у Вашынгтоне 18-га ліпеня. На банкет былі запрошаныя звыш 20-ці этнічных групаў — прадстаўнікоў паняволеных народаў. У адрозьненьне ад папярэдніх гадоў, на сёлетнім банкеце прысутнічала чатырох прадстаўнікоў чэчэнскіх арганізацыяў з штату Нью-Джэрзі. Ад беларусаў ва ўрачыстасьцях прыймаў удзел старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, аўтар гэтых радкоў.

У афіцыйнай частцы банкету, кіраўніком якое быў старшыня Нацыянальнага Камітэту Паняволеных Народаў амбасадар Леў Дабрaнскі, выступаў доктар Лі Эдвардс, прэзыдэнт Фундацыі для пабудовы мэмарыялу ахвярам камунізму. Як ген. Сынглаўб, гэтак і др. Эдвардс гаварылі пра важнасьць пабудовы мэмарыялу ў сталіцы Злучаных Штатаў, бо гэты мэмарыял, у дадатак да ўсяго іншага, надасьць асаблівы сэнс помнікам, збудаваным у Вашынгтоне ў гонар амэрыканскіх жаўнераў, якія загінулі ў барацьбе з камунізмам у Карэйскай і В'етнамскай войнах. Магчымым месцам для пабудовы мэмарыялу будзе Праспэкт Незалежнасьці (Independence Avenue) насупраць музэю Аэранаўтыкі і Астранаўтыкі. Праект разьлічаны на 7 гадоў і каштаваць ён будзе ня менш, як 10 мільёнаў даляраў. Арганізатары праекту спадзяюцца сабраць гэтыя грошы ад прыватных асобаў і арганізацыяў. Мяркуецца, што мэмарыял будзе мець выставачныя залі ня толькі для розных нацыянальнасьцяў, але й для ўшанаваньня памяці гэрояў-антыкамуністаў.

На банкеце была аднагалосна прынятая рэзалюцыя з дамаганьнем свабоды для Гэры Ву, які 19-га чэрвеня 1995 г. быў нелегальна арыштаваны і пасаджаны ў астрог камуністычнымі ўладамі Кітаю.

**Расьціслаў Завістовіч**

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У НЬЮ-ЁРКУ




*Беларуская група зь бел-чырвона-белым сьцягам і транспарантам на Пятай авэню ў Нью-Ёрку 23 ліпеня сёлета на парадзе нацыянальных сьцягоў у дарозе да катэдры Сьв. Патрыка, дзе адбыўся малебен за вызваленьне народаў з-пад ярма дыктатураў. На транспаранце напіс: «Беларусь — ахвяра новае расейскае імпэрыі». На мітынгу ў Цэнтральным парку ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня выступіў др. Вітаўт Кіпель. Прамоўца падаў факты зацiску асабістых, палітычных і нацыянальных правоў на Беларусі аўтакратычным рэжымам прэзыдэнта Лукашэнкі.*

## ПАМЁР МАКСІМ ТАНК

Сёмага жніўня 1995 г. на 83-ім годзе жыцьця памёр выдатны беларускі паэт і грамадзкі дзеяч Максім Танк. У разьвітальным слове ягоны малодшы сябра Ніл Гілевіч напісаў пра нябожчыка («ЛіМ», 11 жніўня 1995):

«Ім пражыта жыцьцё вельмі нялёгкае і няпростае, зьведана безьліч пакут і горычы, момантаў крайне небясьпечных і драматычных. Можна сказаць так: усё, што выпала ў XX стагодзьдзі на долю яго народу, — дасталося ў поўнай меры і яму».

Зазначыўшы, што пра Максіма Танка напісана шмат добрых кніг, Ніл Гілевіч зь веданьнем цяперашняга палажэньня ў Беларусі слушна кажа: «Але самая добрая, самая праўдзівая і глыбокая кніга аб ім — нясумненна наперадзе».

### Памяці Максіма ТАНКА

*Зноў пацямнеў наш родны небасхіл—*
*Упала зорка зыркая ў зьнямозе.*
*Я сэрца, што ўжо больш ня мела сіл,*
*Раптоўна спатыкнулася ў дарозе*

*І выпала пяро з халодных рук.*
*І анямела белая папера...*
*Няўмольнасьці бязьлітасны павук*
*Закратаваў навек зямныя дзверы.*

*Жыцьцё пражыта.*
*У сівой траве*
*Згубілася паніклае калосьсе...*
*Ды ўсё навокал дыша і жыве.*
*Усё на гэтым сьвеце засталося.*

*Няма канца пракладзенай вярсьце.*
*Яна вядзе ў прастор, як і ў пачатку...*
*І зорка, як бясьсмертнае зярнятка,*
*На беларускай ніве прарасьце.*

**Генадзь БУРАЎКІН**

8 жніўня 1995 г.
*(«Звязда», 9 жніўня 1995)*

## ЛУКАШЭНКАЎСКАЯ КІНАФАЛЬШЫЎКА

**Ад Рэдакцыі:** Шмат хто на Беларусі перакананы, што рашаючы ўплыў на выніку рэфэрэндуму і першых двух тураў парляманцкіх выбараў зрабіў паказаны двойчы на тэлебачаньні фільм Ю. Азаронка «Нянавісьць: дзеці хлусьні». Што гэта за фільм і аб чым ён сьветчыць пра людзей, якія яго зрабілі і выкарысталі, гаворыцца ў вялікім артыкуле Віктара Дашука, кінарэжысэра, народнага артыста Рэспублікі Беларусь, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР. Артыкул Дашука зьмешчаны ў «Народнай газеце» (13 чэрвеня 1995) пад заг.: «Я хачу, каб лёс беларусаў ня быў падобны на лёс вымершага народа майя...». Ніжэй зьмяшчаем часткі Дашуковага артыкулу, захоўваючы правапіс арыгіналу.

Я не палітык. Я не належу ні да якіх партый і рухаў. Я — кінарэжысёр і лічу, што мастак павінен займацца мастацтвам. Мастацтва — апошняя рэлігія, якая застаецца, калі ўсё гіне. (...)

З гісторыі савецкага кіно вядома, што многія кіраўнікі дзяржавы мелі схільнасць да рэдагавання кінафільмаў. (...)

11 мая 1995 года падчас тэлеінтэрв'ю беларускага Прэзідэнта я даведаўся, што Аляксандра Лукашэнку таксама цікавяць некаторыя кінафільмы. І ў гэтым не было б нічога асаблівага, калі б не адна акалічнасць: дакументальны фільм Ю. Азаронка «Нянавісць: дзеці хлусні», пра які шла гаворка ў тэлеінтэрв'ю з Прэзідэнтам і які Лукашэнка пахваліў, — **КІНАФАЛЬШЫЎКА** ад першага кадра да апошняга. Я сцвярджаю гэта як прафесіянал са шматгадовым вопытам работы ў якасці кінадраматурга, кінарэжысёра і кінааператара дакументальнага кіно.

Я нарадзіўся пры Сталіне, вучыўся пры Хрушчове, авалодваў прафесіяй пры Брэжневе, выводзіў сваіх дзяцей у людзі пры Гарбачове, пачаў задумвацца над сэнсам улады пры Лукашэнку. Эпоха кожнага правадыра пакінула ў памяці свой адметны след: Сталін запомніўся страшэнным горам людзей, калі памёр, Хрушчоў — услаўленнем кукурузы, Брэжнеў — старэчым маразмам (у пачатку 80-х жартавалі: пяцігодка пахавання Палітбюро). Эпоха Гарбачова запомнілася надзеяй, што нарэшце пазбавіліся ад глупства нашых правадыроў і рушылі ў цывілізаваны свет... Сённяшняя эпоха, як кажуць, «на ўсіх прасторах былога СССР», на вялікі жаль, даволі часта не выклікае іншых пачуццяў, акрамя сораму і страху.

Мне вядома, што заказ на фільм (каб паспець да рэфэрэндуму!) паступіў Ю. Азаронку з акружэння Прэзідэнта. І паўстае пытанне: няўжо такі заказ можна лічыць нечым законным і этычным? Няўжо людзі з акружэння кіраўніка дзяржавы, якія трымаюць руку на пульсе палітычнага рэактара, лічаць патрэбным націскаць кнопку «нянавісць»?

Адно з двух: альбо ў адміністрацыі Прэзідэнта дрэнныя кансультанты, альбо іх не запрасілі па прагляд фільма. Упэўнены, калі б Прэзідэнту расшыфравалі некаторыя «рэжысёрскія» прыёмы ў фільме, ён бы крыху інакш ставіўся да гэтай агіткі.

Абвінавачванне ў фашызме лічыцца даказаным у тым выпадку, калі асобы, якіх абвінавачваюць, здзейснілі злачынствы, падобныя на тыя, якія рабілі фашысты. Дзе гэтыя доказы? Смешна іх шукаць, бо дзейнасць БНФ — на вачах у людзей. Іх падтрымлівае каля мільёна жыхароў Беларусі. Што, і гэты мільён — фашысты?

Лідэр партыі «Правы рэванш» Славамір Адамовіч гаворыць рэжысёру: «Бліжэй за ўсё мне пазіцыя БНФ». Але гэтае сцвярджэнне зусім не азначае, што БНФ падзяляе пазіцыю Адамовіча. Маленькая такая правакацыйная хітрасць, але белае становіцца чорным у вачах некаторых недасведчаных тэлегледачоў: ага, два боты — пара! — робяць яны выснову, і ў кабіне для тайнага галасавання з задавальненнем выкрэсліваюць кандыдатаў БНФ, галасуюць супраць беларускай мовы і гэтак далей. Прыём з абоймы карцёжных шулераў, але амаль заўсёды спрацоўвае бездакорна, бо беларуская тэлевізійная аўдыторыя, на жаль, фанатычна і бязмежна верыць тэлеэкрану — гэтая звычка цягнецца з савецкіх часоў. (...) Абсалютная большасць тэлегледачоў успрыняла кінафальшыўку Азаронка як праўду. (...)

У кінадакументалістыцы існуе строгае этычнае правіла — не засяроджваць увагу на фізічных і псіхічных недахопах людзей: такая выява можа прынізіць чалавечую годнасць. Што робіць рэжысёр у эпізодах мітынгу БНФ і на вечарыне Славаміра Адамовіча?

*(Працяг на 6-й ст.)*

## РЭХА БЕЛАРУСКІХ ПАДЗЕЯЎ НА ЎКРАІНЕ

Артыкул пад заг. «**Рэха беларускіх выбараў у Маскве і Кіеве**» аўтарства праф. Володымыра Звігляныча зьмешчаны ў ангельмоўным тыднёвым бюлетэні **Prism** (vol. 1, No. 9, June 30, 1995), які выдаецца ў Вашынгтоне дасьледніцкай Джэймстаўнскай Фундацыяй. Звігляныч піша, што травеньскі рэфэрэндум і выбары на Беларусі «далі зялёнае сьвятло на аднаўленьне расейскага панаваньня».

Бюлетэнь **Prism** інфармуе пра падзеі ў постсавецкіх дзяржавах і аддае належную ўвагу Беларусі. Адрас: The Jamestown Foundation, 1528 18th St. N.W., Washington, D.C. 20036-1306. Tel.: (202) 483-8888.

Артыкул таго самага аўтара пра выбары й рэфэрэндум на Беларусі і ўплыў гэтых падзеяў на ўкраінскую палітыку — станоўкі паварот Кіева да Захаду — зьмешчаны ў ангельмоўным украінскім тыднёвіку *The Ukrainian Weekly* (June 18, 1995).

## НАЗАД ДА САВЕЦКІХ ПАДРУЧНІКАЎ

Як падалі заходнія сродкі масавай інфармацыі, у тым ліку Ройтэр (18.08), прэзыдэнт Лукашэнка загадаў школам карыстацца ў сёлетнім навучальным годзе старымі савецкімі падручнікамі, бо новыя, паводле яго, залішне «палітызаваныя».

*З жыцьця ў Чыкага*

## ПРЫНЯЦЬЦЕ ДЛЯ ЭТНІЧНАЙ ПРЭСЫ

Губэрнатар Джым Эдгар наладзіў 27 чэрвеня сёлета прыняцьце для прадстаўнікоў этнічнай прэсы, радыё і тэлэбачаньня штату Іліной. Ад беларускай радыёпраграмы «Нёман» бралі ўдзел у прыняцьці сп-тва Вера і Вітаўт Рамукі.

Усьлед за гэтым ён выступіў з кароткім словам, у якім падкрэсьліў значэньне сродкаў масавай інфармацыі ў жыцьці этнічных групаў. Пазьней прыйшоў губэрнатар са сваёй жонкай, спатыкаўся з гасьцямі і фатаграфаваўся зь імі.

У сваёй прамове губэрнатар зазначыў, што этнічныя сродкі масавай інфармацыі маюць доўгую і паважаную традыцыю ў штаце. Журналісты працуюць старанна ў сваіх праграмах і



*Спадарства Вітаўт і Вера Рамукі зь віцэ-губэрнатарам штату Іліной сп. Бобам Кастрам у часе прыняцьця прадстаўнікам этнічных сродкаў масавай інфармацыі. Фота зь бюро губэрнатара.*

Было людна і горача. Для адсьвежаньня падавалі халодныя безалькагольныя напіткі ды прысмакі, а ўжо аркестра падбадзёрвала настрой. Цікава, што прадстаўнікі розных этнічных групаў гутарылі між сабой сваёй роднай мовай, падчыркваючы гэтым пашану да роднага слова.

Перад пачаткам афіцыяльнай праграмы намесьнік губэрнатара, Боб Кастра, знаёміўся з паасобнымі групамі і фатаграфаваўся зь імі.

публікацыях, часта на абмежаваным бюджэце і з агранічанымі кадрамі, ды пашыраюць весткі аб сваёй культуры, традыцыях, звычаях у сваёй роднай мове, перадаючы інфармацыю аб бягучых справах і гэтым заслугоўваюць на прызнаньне.

У канцы прамовы губэрнатар Джым Эдгар аб'явіў Тыдзень этнічнай прэсы ў Іліной ад 26 чэрвеня да 2 ліпеня сёлета.

**Др. В.Р.**

## МІЖНАРОДНАЯ МАТЭМАТЫЧНАЯ АЛІМПІЯДА Ў ТАРОНТА

Найздальнейшыя вучні сярэдніх школ, у веку ад 14 да 18 гадоў, з усяго сьвету, зьехаліся ў Канаду на 36-ю гадавую Міжнародную Матэматычную Алімпіяду, што адбылася 16-25 ліпеня ў Ёркскім Унівэрсытэце ў Таронта. 73 краіны, між імі й Беларусь, бралі ўдзел у алімпіядзе.

У панядзелак 17-га ліпеня на ўрачыстым адкрыцьці алімпіяды беларуская група ў ліку шасьці чалавек ішла ў матэматычныя сусьцігі пад родным **бел-чырвона-белым сьцягам**. Красаваўся гэткі-ж сьцяжок і на грудзёх кіраўнікоў і ўдзельнікаў беларускае групы.

Алімпійцы апрача працы й напружаных экзаменаў мелі нагоду й зьведваць Таронта. Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады сп. Мікола Ганько наведаў беларускую групу адразу пасьля яе прыезду ў Таронта 16-га ліпеня. Кожны студэнт атрымаў ад беларусаў Канады на дробныя выдаткі па пяцьдзесят даляраў.

У суботу, 22-га ліпеня, беларускае грамадзтва мела нагоду гасьціць сваіх алімпійцаў у Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта. Гаспадыні пад кіраўніцтвам спі-ні Марыі Ганько прыгатавалі багаты буфэт. На покуці залі перад Пагоняй й сьцягамі на сьвяточна накрытым арыгінальным беларускім дыванам стале красаваўся ў вазе букет з васьмі бел-чырвона-белых сьцяжкоў. Мікола Ганько паехаў па хлапцоў. А 6-ай гадзіне вечара ў шырокаадкрытых дзьвярох Беларускага Цэнтру з хлебам і сольлю ды бел-чырвона-белымі сьцяжкамі, з прывітаньнем старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады др. Раісы Жук-Грышкевіч ды багаславенствам айца Міраслава сустракалі мы нашых алімпійцаў. Першым зь іх быў прыстойны Арцём Шворын зь Віцебску, за ім ішлі ўсе зь Менску: Сяргей Шых, Міхась Вронскі, Максім Алейнікаў, Андрэй Ядрынцаў ды, відаць наймалодшы з групы, зь вясёлым аблічам Анатоль Каролік. Прыехала зь імі й перакладчыца, студэнтка палітычных навукаў/гісторыі Таронта Ёркскага Унівэрсытэту, Ірэна Собаль, родам з Гародні.

Сустрэць бліскучых студэнтаў зь Беларусі прыйшло на сяброўскі вечар беларускае грамадзтва разнаякага, і зусім маладогу, веку. Па залі бегалі дзяўчаткі й хлапцы ад трох гадоў увысь. Настрой наш быў шчасьліва-радасным і ён мусіў перадавацца й гасьцям. А шчасьлівымі мы былі перадусім таму, што беларуская частка алімпіяды адбывалася ў духу волі, пад **бел-чырвона-белым сьцягам!**

## 49-ТЫ ЗЬЕЗД ЗБВБ

3-га чэрвеня сёлета ў канфэрэнцзалі Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане адбыўся 49-ты агульны гадавы зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Адкрываючы яго, дзеючы старшыня Згуртаваньня А. Зданковіч папрасіў а. А. Надсана сказаць малітву, пасьля якой была ўшанаваная памяць Янкі Міхалюка (старшыні Згуртаваньня). У прэзыдыюм зьезду былі выбраныя сп. Швэдзюк (старшыня), др. І. Гурло і сп. В. Еўдакімаў (сакратары). Сп. А. Якавіцкі, як прыватная асоба ад амбасады РБ, зачытаў прывітальны ліст зьезду ад пасла Рэспублікі Беларусь сп. Ул. Шчаснага. З прывітальным словам зьезду выступіла ад макоўскага Беларускага Культурнага Таварыства сп-ня Т. Мішчэнка з Масквы.

Пасьля ўсіх справаздач зьезд удзяліў абсалютарыюм уступаючай галоўнай управе. У новую галоўную ўправу былі абраныя: А. Зданковіч — старшыня, С. Дзейка і Л. Міхалюк — заступнікі старшыні, др. І. Гурло — сакратар, П. Асіповіч — скарбнік, Я. Ясьвіловіч і В. Еўдакімаў — сябры ўправы. У наглядную раду ўвайшлі: А. Машута, С. Емільянава і М. Баяроўскі.

Дзякуючы ўсім прысутным сябрам і госьцям за ўдзел у зьезьдзе, А. Зданковіч прадставіў сябру сп. Хв. Лемяшонка і павіншаваў яго з 80-мі угодкамі жыцьця. (Хв. Лемяшонак зьяўляецца адміністратарам Беларускага дому ў Брадфордзе). Таксама зачытаў прозьвішчы шасьцёх новых сяброў ЗБВБ.

А. Зданковіч зачытаў таксама ліст да зьезду а. Аляксандра Надсана, старшыні Беларускага Камітэту Дапамогі Ахвярам Радыяцыі, і зварот др. Р. Жук-Грышкевіч, зьмешчаны ў «Беларусе» № 423 — «Памяці ахвяраў камуністычнага тэрору».

Адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну зьезд законьчыў сваю працу. У сяброўскай атмасфэры, пры чарцы віна і смачна нарыхтаванай закусцы працавітых рук сп-ні Лёлі Міхалюк, працягваліся знаёмствы і абмен думак аж да познага вечара.

**А.З.**

нады зьвярнулася да нашых алімпійцаў словамі:

«Дарагая моладзь, незалежна ад вынікаў, якія вы пазаўтра атрымаеце, для нас **Вы ўсе пераможцы**. Ужо той факт, што вы ўдзельнікі алімпіяды, гаворыць аб тым, што Вы, шасьцёрка, выбраная з усіх найболей здольных й працавітых вучняў з усяе Беларусі.

Мы вамі ганарымася. Вы нашая будучыня, надзея й будучыня беларускага народу.

Вы надзеленыя вялікім дарам, Вам болей за іншых дадзена, ад Вас болей за іншых будзе й вымагацца.

Ніколі не забывайце хто вы, калі нават каторысь з вас і не беларус, дык усяроўна ўсіх вас выкарміла вырасьціла, як сваіх родных, беларуская зямелька — Маці-Беларусь. І таму найперш перад Ёю вы павінны чуцца забавязаны, і сваім прыкладным, чэсным жыцьцём і сваімі асягненьнямі ў навуцы памнажаць славу Беларусі. Шчасьці Вам усім Божа! Жыве Беларусь!»

І па адным, под воплескі прысутных, падыходзілі алімпійцы да ўрачыстага

*(Працяг на 5-й ст.)*

## РЭКОРД БЕЛАРУСКІХ СПАРТСМЭНАЎ

На 5-м чэмпіянаце сьвету па лёгкай атлетыцы, які адбыўся ў Швэцыі ў жніўні сёлета і дзе выступалі 2700 атлетаў з 200 краін, беларускія спартсмэны здабылі 7 мэдалёў: 2 залатыя, 3 сярэбраныя і 2 бронзавыя і ў агульнакамандным заліку занялі другое месца пасьля Злучаных Штатаў Амэрыкі. Амэрыканцы заваявалі ўсіх 19 мэдалёў (12 залатых, 2 сярэбраныя і 5 бронзавых). Расейскія спартсмэны ўсіх мэдалёў здабылі 12, але толькі адзін залаты (плюс 4 сярэбраныя і 7 бронзавых). Украінцы вярнуліся з чэмпіянату з трымя мэдалямі (2 залатыя і 1 бронзавы), палякі — з двума (2 бронзавыя).

*(Паводле газэты «Звязда», 15.08.95)*

## БАЙКОТ БЭЭСЭСЭРАЎСКАГА СЬЦЯГУ Ў ЗША

На адзначэньне пятых угодкаў абвешчаньня сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь, якое адзначалі пасольства РБ у Вашынгтоне і місія РБ пры ААН, былі афіцыйна запрошаныя прадстаўнікі беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў і грамадзтва. Ніхто зь іх ня ведаў, што ў дзень угодкаў будуць заменыя сьцягі ў гэтых установах — з нацыянальнага бел-чырвона-белага на стары бээсэсэраўскі чырвона-зялёны. А дзеля гэтага некаторыя з запрошаных адмовіліся ўзяць удзел у сьвятка-вальнай урачыстасьці.

## ВЫБАРЫ: ШТО РАБІЦЬ ДАЛЕЙ?

У рапарце брытанскае Гэльсінскае праваабарончае групы пра сёлетнія парляманцкія выбары ў Беларусі, у разьдзеле «Прагноз», сказана:

«Неабходна далей ціснуць на ўрад Беларусі, каб ён датрымаў канстытуцыйнае забабязаньне правесьці, як і абяцаў, трэці тур выбараў 29 лістапада. Гэта адзіны шлях не дапусьціць у будучыні да прэзыдэнцкага рэжыму. Хоць выбарчая сыстэма (у Беларусі) нездавальнючая, лепш мець яе, чымся неабмежаную выканаўчую ўладу. Праўдападобна, будзе праўдзівым цьверджаньне, што практыка галасаваньня ў Менску стаіць на вышэйшым узроўні, чымся ў сельскай мясцовасьці. Калі кандыдаты апазыцыі здолеюць пераканаць сваіх прыхільнікаў у сталіцы пайсьці галасаваць, дык некаторыя зь іх будуць мець шанс здабыць месца ў парляманце».

### НОВАЯ КНІГА

У Выдавецтве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва выйшла чарговая кніга ў сэрыі «Беларускія паэты й пісьменьнікі замежжа»

**ХМАРЫ над БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ**

*аўтарства Міколы Цэлеша*

Рэдагаваньне, уступны артыкул і бібліяграфія Лявона Юрэвіча.

Лексычны камэнтар Алены Юрэвіч.

Вокладку кнігі апрацавалі Ірэна Рагалевіч-Дутко, а выйшла кніга ў друкарні Міколы Прускага. Гэтаксама ў кнізе партрэт Міколы Цэлеша ды ўспаміны-нататкі аб пісьменьніку ягонае дачкі Славы Цэлеш-Браўн і Вітаўта Кіпеля.

Кнігу трэба замаўляць праз БІНІМ, цана — 20 ам. дал.

## ПАДАРОЖЖА НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

У ліпені сёлета група амэрыканскіх беларусаў і пару асобаў з Канады (усіх 34 чалавекі) наведала Беларусь. З амэрыканскага боку арганізацыяй паездкі займаўся сп. Юрка Наумчык, а зь беларускага — сп. Яўген Лецка. Падарожжа прайшло вельмі ўдала. Першы тыдзень наведнікі аб'ехалі шэраг гістарычных гарадоў Беларусі (Слуцак, Тураў, Давід Гарадок, Столін, Пінск, Слонім, Жыровічы, Гародня, Наваградак, Мір, Нясьвіж, Менск). У дарозе было вельмі весела. Турыстаў суправаджалі спсп. Васіль Ліцьвінка, Васіль Купрыяненка і Мікола Котаў, таленавітыя акторы й музыкі, гасьцінныя гаспадары. Па дарозе турыстаў сустракалі з караваем і песьнямі; былі наведваньні музэяў, цікавая інфармацыя, сьвяткаваньне Купальля. З групай езьдзіў ведамы фатограф Анатоль Кляшчук. Усюды, дзе былі замежныя наведнікі, людзі гасьцінна сустракалі іх, шчодра частавалі, шчыра дзякавалі за памяць аб Радзіме і асабліва за захаваньне роднае мовы. Падарожжы гэткія карысныя і патрэбныя заўсёды, але асабліва нашым часам, калі беларушчына апынулася ў вельмі цяжкім становішчы ды патрабуе маральнае і матар'яльнае падтрымкі.

*З жыцьця ў Аўстраліі*

## МЭЛЬБУРН

Беларусы, згуртаваныя ў Беларускім Цэнтральным Камітэце, супольна з жаночным камітэтам і царквою Сьвятых Віленскіх Мучанікаў БАПЦ у Мэльбурне, настаяцелем якое а. Аляксандар Кулакоўскі, ладзілі 51-я ўгодкі 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу. Урачыстасьць адбылася 2-га ліпеня.

Пасьля сьв. Літургіі быў адслужаны малебен за беларускі народ, а. Аляксандар сказаў патрыятычную казань, напомніўшы вернікам, што наш абавязак — працягваць справу служэньня Богу і Бацькаўшчыне.

У Беларускім Народным Доме адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная гэтай гістарычнай даце. Адчыніў яе старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў штаце Вікторыя Паўла Гуз. Пасьля прачытаньня прывітаньняў была ўшанаваная хвілінай цішыні памяць Міхася Зуя, які быў удзельнікам гістарычнай падзеі ў Менску ў 1944 годзе, а на эміграцыі на 19-м пленуме Беларускай Цэнтральнай Рады пераняў абавязкі Прэзыдэнта БЦР.

Даклад на тэму дня прачытаў сп. Алег Зуй. У мастацкай частцы выступілі з дэклямацыямі вершаў Р. Барадуліна і П. Крэчэўскага сп-чня Вера Шайпак і сп. П. Гуз.

Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Пасьля афіцыйнай часткі сп. Аўген Груша зачытаў ліст ад паэта Леаніда Пранчака ды пазнаёміў зь ягонай кніжкай «Беларуская Амэрыка». Прысутныя прынялі зь вялікай радасьцю вестку аб прыезьдзе сп. Пранчака ў Аўстралію, будучы зацікаўленымі, каб у ягонай наступнай кнізе былі апісаныя жыцьцё і дзейнасьць аўстралійскіх беларусаў.

Былі таксама прачытаныя лісты зь Беларусі ад сп. Антончыка і сп. Яўгена Лецкі. Апошні запрашае аўстралійскіх беларусаў наведаць Беларусь.

Удзельнікі ўрачыстага сходу прынялі напісанае зь ініцыятывы выканаўчага камітэту Фэдэральнай Рады Беларусаў Аўстраліі зварот да Прэзыдэнта РБ А. Лукашэнкі. Было пастаноўлена разаслаць зварот усім прэсавым органам на эміграцыі і ў Беларусі.

**Паўлюк Дуброўскі**

***Падпішэцеся на другі экзэмпляр «Беларуса» для суродзіча на Бацькаўшчыне. Пашырайце інфармацыю пра Беларусь у сьвеце.***

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў АДЭЛЯЙДЗЕ

Вялікая ўрачыстасьць адбылася ў тутэйшай грамадзе 16 чэрвеня ў дзень сьвятых апосталаў Пятра й Паўла. Айцец прат. Міхась Бурнос адправіў урачыстую багаслужбу, на якую прыйшлі таксама каталікі, каб супольна адзначыць гэта дзень. Вельмі добра сьпяваў пабольшаны хор пад кіраўніцтвам Уладзімера Калесьніковіча. Адсьпявалі «Многая лета» тым, хто носіць імя Пятра або Паўла, а таксама ўсім прысутным.

У часе сьвяточнага абеду старшыня парафіяльнае рады Ўладзімер Акавіты прывітаў усіх прысутных з днём сьвята, пажадаў добрага здароўя. Хвілінаю цішыні ўшанавалі памяць будаўнікоў царквы, што адыйшлі на вечны супачын. Быў падняты тост за Бацькаўшчыну-Беларусь.

**У. Акавіты**

## МАТЭМАТЫЧНАЯ АЛІМПІЯДА

*(Заканчэньне з 4-й ст.)*

стала й атрымоўвалі ў дары ад беларусаў Канады бел-чырвона-белыя сьцяжкі, паштоўкі ды на дробныя выдаткі ў Канадзе па 25 даляраў. Падарункі былі перададзеныя й няпрысутным на бяседзе кіраўніком беларускай групы Варановічу Ігару, дацэнту катэдры вышэйшай альгебры Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, і Мазаніку Сяргею, дацэнту катэдры вышэйшай матэматыкі Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту. Перакладчыца Ірэна Собаль, присутнасьць якой на бяседзе была непрадбачана, атрымала беларускія паштоўкі.

У нядзелю алімпійцы адведвалі вадапад Ніягары, у панядзелак — крамы, а 25-га ліпеня быў апошні вырашальны дзень. Ува ўрачыстых абставінах 201 з 412 студэнтаў былі ўзнагароджаны. 30 зь іх атрымала залатыя мэдалі, 71 — сярэбраныя і 100 — бронзавыя.

Сяргей Шах зь Менску атрымаў сярэбраны мэдаль; Арцём Шворын зь Віцебску, Максім Алейнікаў і Андрэй Ядрынцаў зь Менску — бронзавыя мэдалі; Міхаіл Вронскі й Анатоль Каролік, абодвы зь Менску, былі ўзнагароджаны пахвальнымі граматамі.

Кітайская група здабыла для Кітаю першае мейсца. Італія, Беларусь й Сінгапур падзялілі 26 мейсца.

Віншуем вас, беларускія ўдзельнікі алімпіяды, з вашымі асабістымі нагародамі, і здабыцьцём для Беларусі, між 73-х народаў, 26-га мейсца. Жадаем вам багатых посьпехаў у далейшым студыях і ў жыцьці. Шчасьці вам Божа! Жыве Беларусь!

**Раіса Жук-Грышкевіч**




*Чаканьне на аўтобус на пляцы Беларускага грамадзкага цэнтру ў Саўт-Рывэры перад ад'ездам на ньюёркскі аэрапорт імя Кенэды.*



*У слаўным горадзе Слуцку супольная фатаграфія з артыстамі мясцовага мастацкага гуртка, удалымі танцорамі. Фота А. Кляшчука.*



*У гістарычным Тураве, як і ў Слуцку ды іншых гарадох, суродзічаў з Амэрыкі сустракалі з караваем, танцамі і песьнямі. Фота А. Кляшчука.*



*Супольны здымак амэрыканскіх наведнікаў з тураўскімі дзеткамі ля помніка сьв. Кірылу Тураўскаму. Фота А. Кляшчука.*

## СЁМАЕ ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА

Над Беларусяй павіслі йзноў цёмныя хмары біды. Вякамі акупантамі атручваны, пазбаўлены роднай мовы, асьлеплены маной, душой хворы народ, як нявідучы, што ня бачыць, куды ідзе, неабярэжна аддаў бацькаўшчыну й самого сябе йзноў у няволю.

З малітвамі за Цябе, пакутлівая Беларусь і беларускі народзе, ішлі мы 24-га чэрвеня ў паломніцтве да Беларускага Крыжа, што ў прошчы ў Мідляндзе, у Канадзе. Раніца была сонечная й прыемна цёплая. Ня пешкі і не басонаж, як калісьці праз Пружаны, ішлі паломнікі да цудатворнага абраза Божай Маці ў Жыровічах, а самаходам з Каспарам Бычко, што родам з-пад Міра, а жонка якога Леакадыя адыйшла нядаўна на той сьвет, ехалі мы ў паломніцтва да Беларускага Крыжа. Усьлед за намі йшоў самаход зь сям'ёй Станіслава Паўловіча з Таронта. Выехалі мы раней за іншых паломнікаў з Бэры, каб быць загадзя перад багаслужбай у прошчы, пакланіцца Крыжу й перадаць яму падарункі ад беларускі, сп-ні Ганны Сурмач зь Менску. Раскошным менскім ручніком і слуцкім паясом ахінулі мы, як ногі Хрыста, дрэва Крыжа. І усьміхнуліся ў падножжы яго галоўкі кветак, зашумелі верхавіны гонкіх хвояў, затрапятаўся на вятры бел-чырвона-белы сьцяг, гледзячы з задаваленьнем на старым беларускім звычаем упрыгожаны Крыж.

Антон Маркевіч з Ашавы даў ахвяраваньне на мэмарыяльную дошку памяці ахвяраў камуністычнага тэрору, якая мае быць узьнесена на валуне, што з правага боку Крыжа.

У 10:30 раніцы айцец Фаррэл, дырэктар прошчы, прывітаўшы беларускае паломніцтва, адправіў Сьв. Літургію, у часе якой маліўся за супакой на сьвеце, за БЕЛАРУСЬ, за душы памёршых паломнікаў да беларускага Крыжа, за слуг Божых: Леакадыю Бычко, Тома Кэлі, Еудакію Жызьнеўскую, Марыю Каладзейскую, Баляслава Лішчонка, Галену Гарадзецкую, Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Працэсія на ўзгорак да Крыжа падымалася ўсклікаючы: «Сьвятая Марыя, маці Божая, маліся за нас грэшных цяпер і ў гадзіну сьмерці нашай! Амін», "Ave, Ave, Ave Maria!" З малітвай да Маці Божай сталі мы перад Крыжам — укрыжаваным Ісусам Хрыстом. І перад Ім, ужо толькі па-беларуску, разам з чытальнікам Раісай Жук-Грышкевіч, зьвярталіся:

«Сусьветны Уладару, спрадвечны Божа, выслухай нас, Збавіцелю наш: Мы дзеці беларускага народу, як маглі слухаліся Тваіх запаветаў, але дзеля чалавечай слабасьці часта падалі й зьневажалі Цябе сваімі грахамі.

Цяпер молім Цябе шчыра: даруй нам нашы правіны; даруй таксама тым, хто крыўдзіў нас і зьневажаў. Барані нас ад крыўды варожае і дай нам і ворагам нашым духа справядлівае хрысьціянскае любові.

Дай нам еднасьць веры, згоду ў грамадзкім і сямейным жыцьці, загаі нашы асабістыя й народныя раны душы...

Пашлі беларускаму народу ахвярных слугаў сваіх, якія праведным, сумленным і мудрым жыцьцём і дзейнасьцю вялі-б яго да лепшае долі... Благаслаўі нашы сем'і, асаблівую ласку дай моладзі, каб яна атрымала глыбокае хрысьціянскае ўзгадаваньне й вырасла на карысных сыноў і дачок свайго народу.

Благаслаўі нашы дачасныя дастаткі, ня дай гінуць марна талентам, якія Ты пасылаеш у наш народ, але дай ім свабодна разьвівацца і закрасаваць Табе на славу і ўсяму людзтву на карысьць.»

«Магутны Божа» засьпявалі мы пад кіраўніцтвам Станіслава Паўловіча ўсе разам.

Айцец Фаррэл кароткай малітвай і сьвятой вадой асьвяціў Беларускі Крыж.

Пасьля агульнай ля Крыжа фатаграфіі, паломнікі селі ў цені дрэў папалуднаваць.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## ЛУКАШЭНКАЎСКАЯ КІНАФАЛЬШЫЎКА

*(Заканчэньне з 3-й ст.)*

Ён наўмысна фіксуе ўвагу на людзях, якія, мякка кажучы, не падобныя на на Алена Дэлона, — зноў-такі гледача тыцкаюць носам: гэта не людзі, а нейкія хворыя істоты... Забаронены прыём у дакументальным фільме — паказваць п'янага чалавека, які не кантралюе ў гэты момант свае паводзіны. Тым болей што «героем» быў вядомы беларускі паэт, якога губіць гарэлка, і такога чалавека шкадаваць трэба, а не здзекавацца з яго.

Усе помняць, як ахоўнікі Прэзідэнта не падпускалі блізка фотакарэспандэнта газеты «Свабода» за тое, што ён мог выставіць Лукашэнку ў непрывабным выглядзе, і, між іншым, яны мелі рацыю. А хто абароніць беларускага мастака Марачкіна і яго калегу, пра якіх малодшы Савіцкі, таксама мастак, гаворыць у фільме здзеклівым тонам: «Ну... Гэта не Тыцыян... А гэты — чалавек з недаразвітай падсвядомасцю...»

У аднаго ўсходняга класіка ёсць такія паэтычныя радкі: «У поэтов есть обычай, в круг сойдясь, оплевывать друг друга...»

Якое права мае рэжысёр Азаронак разам з Савіцкім аплёўваць Марачкіна і іншых перад шматмільённай аўдыторыяй у сітуацыі, калі тыя не маюць магчымасці, як кажуць, «даць здачы», за што іх абліваюць «памыямі»? Адказваю — за прыналежнасць да БНФ. Маральна гэта? Адказ існуе толькі адзін — амаральна.

Не ўсе, мусіць, ведаюць, што для таго, каб мець добрую выяву чалавека на экране, пры здымцы трэба карыстацца асвятляльнымі прыборамі, асабліва пры здымцы ў памяшканні. У адваротным выпадку твары людзей будуць скажоныя. А калі ўвогуле паставіць перад сабой задачу зрабіць з чалавека нейкую пачварную істоту, — з дапамогай ракурса, кампазіцыі, адсутнасці святла і гэтак далей для прафесіянала не складае ніякіх цяжкасцей, і гэтым прыёмам спаўна карыстаецца рэжысёр. У фільме няма ніводнага кадра, дзе б «бээнэфаўцы» былі зняты ў анфас — у твар; увесь час — то збоку, то ззаду: звычайна такім спосабам кінааператары спецслужбаў здымаюць тайнаеназіранне і захоп злачынцаў...

Зноў дакладны разлік: хіба вясковая бабка ці ветэран Вялікай Айчыннай вайны будзе разбірацца ў нейкіх там ракурсах і кампазіцыях, галоўнае: выклікаць агіду да БНФ, і рэжысёр разам з вядомым расійскім артыстам Гасцюхіным удала спраўляецца з гэтай задачай. Маўр зрабіў сваю справу перад выбарамі і рэфэрэндумам!

І, нарэшце, эпізод, калі на мітынгу БНФ у кадры раптам з'яўляюцца гітлераўцы, дэманструючы, па задуме рэжысёра, прамую паралель паміж фашыстамі і БНФ. Тут ужо пра рэжысуру, прафесійныя прыёмы, густ і гэтак далей гаварыць не прыходзіцца — яўная ПРАВАКАЦЫЯ, злосная і ганебная. Сумленны рэжысёр на такое ніколі не пойдзе, падкрэсліваю — сумленны!

У сувязі з гэтым успамінаецца яшчэ адна хроніка: у кінаархівах ёсць сцэны здымак, калі падчас вайны нямецкія кінааператары па загаду Гебельса здымалі інсцэніраваныя эпізоды: беларускім вясковым дзеткам немцы ўручаюць падарункі... Вядома, што пазней гэтыя вёскі гітлераўцы расстрэльвалі і спальвалі разам з дзеткамі, з жыхарамі... А хроніка пра «любоў немцаў да беларусаў» працягвала дэманстравацца ў кінатэатрах акупіраванай Еўропы.

Як бачым, прыём кінаправакацыі існуе ў кінадакументалістыцы з даўніх часоў...

Аднойчы ў Індыі падчас здымак урачыстай цырымоніі (я быў кінааператарам) індыйска-савецкай дружбы на сцэне, з-за куліс, раптам з'явіўся бадзяжны сабака, і зала знямела, урачыстасць на нейкі момант была сапсавана. Я мог паставіць гэты кадр у фільм: такое ж было, але не паставіў, бо гэта быў бы здзек над людзьмі, якія былі невінаватыя ў тым, што здарылася.

Фільм Азаронка цалкам складаецца з падобных «сабак» і на самай справе выклікае пачуццё агіды. Не да БНФ. Да аўтараў. І сааўтараў.

## ЛУКАШЭНКАЎЦЫ ЗМАГАЮЦЦА З СБМ

Прэзыдэнцкая газэта Беларусі, якою кіруе цяпер вядомы журналіст Павал Якубовіч, «Советская Белоруссия», пачала 6 чэрвеня сёлета друкаваць дасьледваньне А. Бадуліна аб СБМ (Саюзе Беларускай Моладзі).

У пяці нумарох газэты падрад друкавалася нібы-та гістарычнае дасьледваньне дзейнасьці СБМ на акупаванай тэрыторыі Беларусі. Назва артыкулу шматзначная: «Нямецкія нацысты і беларускія фашысты стварылі СБМ, каб разбэсьціць моладзь». І далей падзагаловак: «Гэты 'саюз' павінен быў аб'яднаць маладых людзей дзеля таго, каб выхаваць іх у фашысцкім духу, а пасьля ўцягнуць у збройную барацьбу ў вайне Нямеччыны супраць СССР». Чаму цяпер, калі былыя выхаванцы камсамолу вядуць такую крывавую і бясслаўную вайну супраць свайго народу ў Чачні, калі дзяржаўным прадпрыемствам на Беларусі няма чым плаціць заробак сваім рабочым, калі нехапае сродкаў, каб закончыць у Берасьцейскай вобласьці будову кансэрвавага заводу, для якога ўжо закуплена сучаснае нямецкае абсталяваньне, заводу антыбіётыкаў для лячэння людзей, «Советская Белоруссия» (6, 7, 8, 9 і 10 чэрвеня) прысьвячае ўвагу падзеям 50-гадовай даўнасьці, прычым такіх, якія ня маюць адносін да 50-годзьдзя Перамогі ў другой сусьветнай вайне.

Тым ня менш, прэзыдэнцкая газэта занялася расьследваньнем дзейнасьці арганізацыі, якую толькі ў другую гадавіну пачатку вайны з Саветамі, у 1943 годзе, дазволілі і ў якую набіралі школьнікаў ва ўзросьце ад 10 да 20 гадоў («СБ», 20.06.95). А раз так, то арганізацыйную дзейнасьць можна было пачынаць толькі з пачаткам новага (1943-44 г.) навучальнага году. Пакуль навучэнцам разьясьнялі, запісвалі, выдавалі таннае адзеньне (якое тав. Бадулін называе формай), пакуль падрыхтавалі ў Альберціне кіраўнікоў, — пачаўся 1944 год і кіраўнікам СБМ засталося кіраваць гэтай арганізацыяй толькі паўгоду, пры пастаянным супрацьдзеяньні і застрашваньні з боку «лясных братоў», ці чырвоных партызанаў.

Дык чаму столькі ўвагі прысьвечана арганізацыі, якая не паўплывала і не магла паўплываць на ход вайны? Мо прэзыдэнцкая газэта працягвае палітыку таварыша Лукашэнкі па адцягваньні ўвагі ад цяжкасьцяў сучаснага жыцьця, ад разважаньняў, чаму прэзыдэнт не запусьціў усе заводы за 6-8 месяцаў, як абяцаў гэта 10 месяцаў таму. Мэта публікацыі такая самая, як і рэфэрэндуму, пытаньні якога часткова былі непатрэбнымі (эканамічная інтэграцыя, правы расейскай мовы), а часткова шкоднымі (зьмена сімволікі, права прэзыдэнта разганяць непакорны парлямант), затое тав. Лукашэнка перад рэфэрэндумам па дзьве-тры гадзіны гаварыў у тэлевізійнай студыі з грамадзянамі не аб важных эканамічных праблемах жыцьця рэспублікі, а прасіў падтрымаць згодаю пытаньні на рэфэрэндуме, даючы пры гэтым магчымасьць расейцам, прыгрэтым на Беларусі (Гасьцюхін, Савіцкі), аплёўваць гістарычныя сімвалы народу і сьвядомых беларусаў, асабліва на эміграцыі. Напомнім, што ў гэтых тэлевізійных гутарках тав. Лукашэнка назваў першы зьезд беларусаў сьвету ў Менску ў 1993 годзе «зборышчам недабітых паліцаяў», затое сам ён прымаў актыўны ўдзел у першым зборышчы былых і сучасных камуністаў, які назваў сябе кангрэсам народу Беларусі. Падчас тэлегутарак з народам у акружэньні гасьцюхіных і савіцкіх, перабежчыкаў акулавых і жураўскіх, прэзыдэнт дазваляў бяздоказна паніжаць і абліваць гразёю літаратараў і грамадзкіх дзеячоў беларускага замежжа. Успомнім, як няўдалы мастак Савіцкі-малодшы выгаворваў дзяржаўнаму выдавецтву «Мастацкая літаратура» за публікацыю раману Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі», назваўшы аўтара раману «паліцаем». Савіцкаму хацелася, каб гэтае выдавецтва выдала кнігу Джона Лофтуса аб беларускай эміграцыі ў ЗША.

Такім чынам увага тэлегледачоў была накіравана на іншыя рэчы, чым тыя, пра якія народ гаворыць паміж сабою ў крамах і цягніках штодня. Той самай мэце — адцягваньню ўвагі ад надзённых праблемаў — прызначана служыць і сэрыя артыкулаў пра СБМ.

Бязумоўна, любы часопіс, любая газэта мае права на дасьледваньне дзейнасьці той ці іншай арганізацыі. Толькі ў дэмакратычнай дзяржаве дэмакратычная прэса дасьледвала-б дзейнасьць маладзёжных арганізацыяў

*(Працяг на 7-й ст.)*

### ВЫЙШЛІ З ДРУКУ

• **BELARUSIAN REVIEW. Quarterly Information Bulletin.** Published by Belarusan-American Association. Vol. 7, No. 2. Summer 1995. 28 p. У нумары шмат цікавага і актуальнага. Ладная частка матар'ялаў прысьвечаная сёлетнім парляманцкім выбарам.

• **BELARUS: THE END OF INDEPENDENCE? Parliamentary elections and referendum, May 1995.** A report by the *British Helsinki Human Rights Group*. Oxford, England, 43 p.

• Беларуска-ангельскі, з паралельнымі тэкстамі, **СЛУЖБОЎНІК. SERVICE BOOK.** Першае выданьне (295 ст.). Апрацаваная Мітрапалітам Мікалаем, Першым Ярархам БАПЦ, кніжка, выйшла ў выдавецтве Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў гор. Таронта ў Канадзе сродкамі парафіі БАПЦ Божай Маці Жыровіцкай у Клівлендзе, Агаё, ЗША.

• **СЛУЖБОЎНІК. СЬВЯТАЯ ЛІТУРГІЯ. Сьвятога Яна Залатавуснага і Сьвятога Васіля Вялікага.** Менскі перадрук (выдавецтва «Тэхналогія») другога таронтаўскага выданьня 1994 году (380 ст.). Укладальнік — Архіепіскап Мікалай.

• **НОВЫ ЗАПАВЕТ. ПСАЛТЫР.** З дабраславенства Найпачасьнейшага Мікалая, Архіепіскапа БАПЦ ў перакладзе з царкоўнаславянскай Васіля Сёмухі (488 ст.). Мастацкае афармленьне: А. А. Лапіцкая. Менск, выдавецтва «Бацькаўшчына», 1995.

• **BELARUS. LITHUANIA. POLAND. UKRAINE. The Foundations of Historical and Cultural Traditions In East Central Europe. International Conference. Rome, 28 April – 6 May 1990.** Institute of East Central Europe, Lublin, 1994. 503 p.

Зь беларусаведных матар'ялаў у кнізе: Янка Запруднік — Гістарычныя і культурныя асновы беларускай нацыянальнай сьведамасьці; Зора Кіпель — Беларуская літаратура XVI-га стагодзьдзя: самабытасьць і літаратурныя сувязі; Zbigniew Wójcik — Tendencje separatystyczne w Wielkim Księstwie Litewskim w XVII wieku; Дмитро Стэповик — Віленська академія і культура Білорусії й України в XVII столітті; Czeslaw Kudaba — Straty Wileńszczyzny w krajobrazie kulturowym; Elżbieta Smułkowa — Język jako odzwierciedlenie stosunków między sąsiednimi narodami. Problematyka polsko-białorusko-litewska; Iarosław Isaievych — Confraternities of Laymen in Early Modern Ukraine and Belarus; Jerzy Kloczowski — Atlas historii społeczno-religijnej Europy Środkowo-Wschodniej; Анатоль Грыцкевіч — Уніяцкія тэнтэнцыі і уніяцкая царква на Беларусі ў XV-XVII стагоддзях: Адам Мальдзіс — Францішак Скарына як лучнік паміж праваслаўным Усходам й каталіцкім Захадам; Jerzy Turonek — Katolicyzm na Białorusi — skala problemu; Jan Skarbek — Zmiany na mapie wyznań Białorusi, Litwy, Polski i Ukrainy w ostatnich dwuch wiekach; Juliusz Bardach — Polacy litewscy a inne narody Litwy historycznej. Próba analizy systemowej; Andrzej S. Kamiński — History of the Polish-Lithuanian Commonwealth: 1453-1795; Вітаўт Кіпель — Мінулае Беларусі і нацыянальнапалітычная сьведамасьць беларусаў у цяперашнім часе; Marek J. Karp – W poszukiwaniu współpracy między narodami byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego podczas I wojny swiatowej; Wiaczeslaw Werenicz — Historyczne i kulturalne podstawy swiadomości narodowej Polaków w Związku Radzieckim (Na przykładzie Republiki Białoruskiej). Пра Беларусь вялася таксама гутарка ў выступленьнях за круглым сталом.

## «ВЫБАР» ЁСЬЦЬ!

Пасьля колькімесячнага перапынку выйшаў чэрвеньскі нумар газэты «Выбар», якая была заснаваная ў пачатку 1994 году Віцебскім гарадзкім клюбам выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары». Ад пачатку «Выбар» заняў пасьлядоўную беларускую нацыянальную й дэмакратычную пазыцыю. Многія матар'ялы газэты сталіся задакумэнтаванай гісторыяй сацыяльнага й нацыянальнага генацыду на Беларусі. Грунтуючыся на фактах з жыцьця Віцебшчыны, газэта пачала сыстэматычна даводзіць злачынны характар савецкай улады ў Беларусі, што выклікала рэпрэсіі з боку мясцовых пракамуністычных кіраўнікоў гораду й вобласьці. І пры Кебічы, і пры Лукашэнку ня спыняюцца спробы прыдушыць голас незалежнай віцебскай газэты.

*«Спраўляе свой дзікунскі баль зграя драпежнікаў — дрымучае невуцтва, шэрасьць і пасрэднасьць, пошласьць і глупства»,* — піша ў апошнім нумары рэдактар «Выбару» Барыс Хамайда. — *«У сваім шаленстве яны ірвуць на кавалкі нашыя нацыянальныя сімвалы, мацюкаюцца, рагочуць проста нам у твар. Хто іх утаймуе? Нахабства і цынізм, падманы і паклёп — іх 'дабрачынасьці', іх унутраная сутнасьць. Яны думаюць, што прыйшлі надоўга. Яны ўпэўнены, што перамаглі назаўсёды.»*

Сытуацыя ў Беларусі віваворна адбіваецца на газэце. Апошні нумар выданьня зьявіўся ужо ў зьменшаным фармаце й меншым накладам, але вернасьць газэта сваім ідэалам сымбалізуе па-ранейшаму «Пагоня» на тытуле. Рэдактар засьцерагае чытачоў ад несупраціву сёньняшняму стану рэчаў у краіне, які называе акупацыяй, і выказваецца за барацьбу зь ім.

Чэрвеньскі нумар «Выбару» артыкулам В. Брусава "Як Сазон 'падараваў' тое, чаго няма" ізноў уздымае праблемы карупцыі ў структурах улады й беспакаранасьць злачынцаў на кіраўнічых пасадах. Нумар знаёміць чытачоў і з падрыхтаваным радай гарадзкога клюбу выбаршчыкаў зваротам да жыхароў гораду. Друкуецца таксама вершаваны аўтограф сталага чытача газэты, народнага паэта Рыгора Барадуліна ў адказ на віншаваньне рэдакцыі зь юбілеем. Нехта пад псэўданімам Уладзя ў фэльтоне «Быць бітым і зрабіць выснову — перамагчы» разважае пра сучасную палітычную сытуацыю ў Беларусі.

Нават у нумары паменшага фармату знайшлося мейсца для ўжо традыцыйнага літаратурнага аддзелу, дзе побач з славутым вершам М. Багдановіча «Пагоня», у рубрыцы «Свае слова гаворыць МОЛАДЗЬ», зьмяшчаюцца патрыятычныя вершы двух юнакоў і адной дзяўчыны. У вершы 20-гадовае Людзьмілы Сіманёнак «Еўфрасіньні Полацкай» між іншага гаворыцьца:

*Ўладарыня навекі, без маны*
*Як промень сонца ў нашым небе сінім,*
*Ад пошасьці, ад здрады й чужыны*
*Нас уратуй,*
*сьвятая Еўфрасіньня!*
*На кінутую ў рабства масакалю,*
*Зьнямелую бяз страчаных сьвятыняў,*
*На родную бяздольную зямлю*
*Вярні свой крыж,*
*сьвятая Еўфрасіньня!...*
*На нескаронасьць духу у грудзях,*
*На вольны шлях — прайсьці альбо загінуць,*
*На адраджэньне людзкасьці ў людзях*
*Благаславі, сьвятая Еўфрасіньня!*

У нумары газэты ўпяршыню ўвядзеная рубрыка «Весткі БАПЦ», у якой друкуюцца матар'ялы зь дзейнасьці Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў ЗША.

**Сёньня ўвесь незалежны друк у краіне існуе ў атмасфэры бясконцага шальмаваньня з боку ўлады прэзыдэнта Лукашэнкі ды падобных яму ненавісьнікаў беларускага вольнага духу. Віцебскі «Выбар» не скараецца сёньняшняму змроку акупацыі, ён змагаецца дзеля будучай, інакшай Беларусі. Новы нумар «Выбару» заклікае людзей магчымымі сродкамі процістаяць таталітарнаму чырвонаму рэжыму Лукашэнкі й дэманструе свой уласны выбар — выбар паміж рабствам і змаганьнем за свабоду. Ю.В.**

## ЛУКАШЭНКАЎЦЫ ЗМАГАЮЦЦА З СВМ

*(Працяг зь 7-й ст.)*

ня толькі пад нямецкім панаваньнем, але і пад бальшавіцкім, так як прызнана ва ўсім сьвеце, што абедзьве дзяржавы — хоць гітлераўская, хоць сталінская — былі таталітарнымі і ў такім духу стараліся выхоўваць сваю моладзь. Прычым, ахайваючы дзейнасьць нямецкага гітлерюгенду, ня трэба забываць, што апошні сама мала на 15 гадоў малодшы за ленінскі камсамол і бязумоўна выкарыстоўваў дасьведчаньне старэйшага брата. А маладзёжныя арганізацыі ёсьць у любой дзяржаве, любая дзяржава хоча мець патрыятычна выхаваную моладзь. Толькі ў вольных дзяржавах выхоўваецца нацыянальны патрыятызм, а ў таталітарных краінах выхоўваньне ідэалягічнае, якое рыхтуе моладзь да выкананьня мэтаў, якія ставіць перад сабою таталітарны рэжым. Таму там ачмурваюць неабходнасьцю дыктатуры пралетарыяту і барацьбы з «ворагамі народу», неабходнасьцю быць пільнымі да іх, або ідэйкамі вышэйшай расы, Богам дадзенай нацыі, абавязанай кіраваць ніжэйшымі расамі. Параўнаньне мэтадаў такога «патрыятычнага» выхаваньня ў гэтых дзьвюх сыстэмах можа мець навуковую цэннасьць.

А паўтарацць бальшавіцкія зьнявагі на былых юнакоў СБМ, якіх паніжаюць ужо 51 год, якім прыпісваюць барацьбу са зброяй у руках і спальваньне вёсак тады, як падчас акупацыі для гэтах мэтаў хапала дарослых — гэты прыём аніяк не назавеш дэмакратычным ці годным для праваой дзяржавы, дзе самых падазрэннаў замала, патрэбныя доказы віны. А гэтыя «доказы» высмоктваюцца з пальца. І запраўды, нельга праўдзіва апісваць дзейнасьць юнакоў 1943-44 гадоў у той час, калі дагэтуль на Беларусі легальна існуе Ленінскі камуністычны саюз моладзі, калі ў Менску ля помніка «жалезнага Фелікса» — апоры ленінска-сталінскай дыктатуры — дагэтуль існуе вуліца Камсамольская. У гэтых абставінах прапагандысцкі заказ «дасьледваньня» таварыша Бадуліна аб «дзейнасьці» СБМ відавочны.

Дык чаму трэба было менавіта цяпер дасьледваць дзейнасьць арганізацыі, якая існавала толькі год на паперы і не змагла за гэты год разгарнуць сваю дзейнасьць згодна з праграмай і статутам, на якія спасылаецца шаноўны «дасьледчык»? У той-жа час тэндэнцыйнага прапагандысцкага матэрыялу аб ёй апублікавана бальшавікамі дастаткова за 1945-85 гады да часу галоснасьці. Дык чаму ізноў пра СБМ? Ці не для таго, каб скрыць саправуды эсэсаўскую дзейнасьць і фашызм выхаванцаў камсамолу? Бо колькі раз ні друкавала-б «жоўтая» камуністычная газетка «Мы и время» копію закліку Вілейскага ці Маладзечанскага кіраўніцтва СБМ да уступленьня ў аддзелы беларускага СС, ні аднаго прозьвішча юнака, які-б паслухаў гэты заклік, не апублікавана. Ды і хто мог пайсьці ў СС? Дзесяці — дванаццацігадовыя хлопчыкі? Для гэтага хапала дзядзькаў, якія даўно служылі ў паліцыі. Нельга выключыць, што такі заклік быў надрукаваны ўжо пасьля вайны для патрэб сьледчых КДБ і зьяўляецца фальшыўкай, да такой ступені ён нелягічны.

А вось аб «подзьвігах» выхаванцаў камсамолу газэта пад кіраўніцтвам Паўла Якубовіча маўчыць нешта. Бо гэта-ж яны былі апораю бальшавіцкай тыраніі, займалі пасады ў карных органах: ЧК, НКВД, КДБ. Юнакі, што ўступілі ў камсамол у 1918 годзе, у 1937 годзе былі ў веку 35-40 гадоў, і гэта яны прымушалі прызнавацца ў «праступствах» нашых пісьменнікаў, беларускую інтэлігенцыю, вынішчалі самых працавітых сялян, якіх яны называлі кулакамі. А дзе выхаванцы камсамолу вызначаліся ў 1941-44 гадах? Яны ня толькі на амбразуры кідаліся — салдаты маглі быць і беспартыйнымі — а вось у органы НКВД, заградзіцельныя атрады і «смерш», асобыя атрады НКВД, беспартыйных ня бралі. А «комсомол — резерв партии»? Аб гэтым псэўдадэмакрат, псэўданезалежны «дасьледчык» Бадулін чамусьці маўчыць.

Між тым, наконт «подзьвігаў» былых выхаванцаў камсамолу расейская прэса гаворыць шмат. Менавіта расейская, бо там адзінай заваёвай перабудовы і дэмакратызацыі застаецца свабода слова, якую Гарбачоў назваў галоснасьцю. Наш «уссенародна выбраны» па бальшавіцкай звычцы змагаецца, як можа, супраць свабоднага выказваньня поглядаў, калі яны супярэчаць поглядам улады. Не забывайма аб «белых плямах» на старонках газэт падчас праўленьня сучаснай адміністрацыі. А ў Расеі, пасьля забароны выхаду некаторых газэт, што падтрымалі путч Руцкога-Макашова, Ельцын прыслухаўся да парад Заходу і з газэтамі больш не «ваюе».

**М. Бублікаў**

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

**Чаго баяцца беларусы?**

На пытаньне «Чаго вы апасаецеся ў бліжэйшай будучыні?» найбольшы працэнт апытаных 1414 чалавек на Беларусі (64,3%) адказалі: магчымасьці недаступнасьці прадуктаў харчаваньня і тавараў першай патрэбы з-за росту цэнаў. *(Паводле «Чырвонай змены», 19.07.95)*

**РЭЛІГІЙНЫЯ АБШЧЫНЫ НА БЕЛАРУСІ**

У Беларусі цяпер зарэгістравана ўсіх 1950 рэлігійных абшчынаў. З 918 дзейных цяпер праваслаўных прыходаў 200 знаходзяцца ў стадыі будаўніцтва. З 360 каталіцкіх парафіяў больш за палавіну знаходзяцца ў Гарадзеншчыне. Зарэгістраваныя таксама 20 мусульманскіх абшчын, 15 юдзейскіх, 15 кальвініcцкіх, прыкладна гэтулькі-ж пяцідзесятніцкіх і іншыя. (*Паводле А. Жыльскага, старшыні па справах рэлігіяў пры ўрадзе РБ. «Звязда», 15.08.95*)

**ПРЫПАМІНАК-ПРОСЬБА**

Рыхтуецца да друку кніга-успаміны др. Барыса Рагулі аб беларускім студэнцтве у Заходняй Эўропе ў пэрыядзе па Другой сусьветнай вайне. Аўтар просіць былых студэнтаў Марбургскага й Лювэнскага ўнівэрсытэтаў прысылаць яму свае ўспаміны-біяграфіі для ўлучэньня ў кнігу. Шлеце матар'ял на адрас:

Dr. Barys Ragula
579 Willowdale Ave.
London, Ontario, N5X 1J2
CANADA

**ПРОСЬБА ад Рэдакцыі да дапішчыкаў, нашых прадстаўнікоў ды іншых:**

Калі Вы прысылаеце пісаныя ад рукі карэспандэнцыі ці сьпісы ахвярадаўцаў або якія-небудзь іншыя рукапісныя матар'ялы для публікацыі, КАЛІ ЛАСКА, **пішэце выразна** (пажадана друкаванымі літарамі) **прозьвішчы**. Друкуючы ў газэце прозьвішчы, мы хацелі-бы рабіць як мага менш памылак, але іншы раз нельга ад гэтага ўхіліцца дзеля нявыразнасьці напісаньня.

**НОВЫ АДРАС**

Віталь Кажан падае свой новы адрас:

Vitaly Kazan
29 Pennington-Lawr. Rd.
Pennington, N.J. 08534

## На выдавецкі фонд Belarusian Review

*Заміж кветак на магілу сьв. памяці Бэнігны Вініцкай:*

| | |
|---|---|
| Г. і В. Русак | ам. дал. 75 |
| В. і М. Сьнежка | 50 |
| Ю. Найдзюк зь сям'ёю | 50 |
| Айцец В. Кендыш | 50 |
| О. Яськевіч | 30 |
| В. і М. Махнач | 20 |

## На выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва

| | |
|---|---|
| В. і З. Кіпель | ам. дал. 500 |
| В. і Ф. Бартуль | 200 |
| С. і К. Вініцкія | 200 |
| А. Рамана | 200 |
| М. Латушкін | 150 |
| І. і Я. Сурвілла | 150 |
| В. і В. Рамук | 140 |
| М. Абрамчык | 100 |
| У. Набагез | 100 |
| Л. і Л. Літаровіч | 100 |
| С. Шабовіч | 75 |
| Ананімна (з Каліфорніі) | 60 |
| У. Ракуць | 50 |
| М. Смаршчок | 50 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| Ф. Сак | 30 |
| В. Мельяновіч | 20 |
| А. Субота | 15 |
| А. Сёмуха | 10 |
| М. Ханяўка | 10 |
| В. і З. Кіпель (заміж вянка на магілу в.п. Ч. Найдзюка) | 50 |

**ПАПРАЎКА**

У папярэднім нумары (№ 425) «Беларуса», у нэкралёгу сьв. памяці Марыі Стагановіч атрымалася прыкрая тэхнічная памылка. Дзявочае прозьвішча нябожчыцы Карпузэвіч было памылкова пададзенае як Каркузэвіч.

Гэтаксама перадапошні радок у 1-ай калёнцы трэба чытаць:

«... **загадчыкам шпіталю і гарадзкое ўправы**».

Рэдакцыя просіць выбачэньня за недагляд.

---

10-га чэрвеня 1995 г., пасьля цяжкой хваробы, адыйшла на вечны супачынак на 100-ым годзе жыцьця

**Сьв. пам. БЭНІГНА ВІНІЦКАЯ**

аб чым з глыбокім сумам паведамляе

**Дачка Ірэна зь сям'ёю.**

---

## Сьв. пам. АРКАДЗЬ ЯРАМЁНАК

Адыйшоў у вечнасьць наш добры прыхаджанін, добры прыяцель і адданы працаўнік для дабра нашай царкоўнай грамады, Аркадзь Ярамёнак. Нарадзіўся на Беларусі, памёр у Glen Spey у штаце Нью-Ёрк. Пахаваны на Сьвята Ўладзімерскіх магілках у Jackson, N.J. Пахавальны абрад выканалі ў Глэн-Спэй а. Нэстар Ц. Каваль, а ў Джаксан а. Барыс Кізенка.

Прыхаджане, настаяцель а. ігумен Грэгары, а. дыякан Міхаіл прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гілл, у Нью-Ёрку, перасылаюць глыбокія спачуваньні жонцы Аньне, дачцы Юлі і ўсім родным.

Вечная памяць.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Б. Махнач | ам. д. 100 |
| І. А. | 100 |
| В. і І. Ільчук | 50 |
| А. Чарнэцкая | 50 |
| Г. Сенькевіч | 50 |
| У. і. А. Ракуць | 50 |
| О. Арэхва | 30 |
| М. Калядка | 30 |
| Я. Юхнавец | 30 |
| Заміж кветак на магілу сьв. пам. Часлава Найдзюка: | |
| І. Я. | 50 |
| У сьветлую памяць Аўгена Протаса: | |
| О. Арэхва | 30 |
| У сьветлую памяць Бэнгіны Вініцкай: | |
| Б. і В. Стус | 50 |
| А. Чарнэцкая | 50 |
| К.І. Шэлест | |
| У сьветлую памяць Марыі Стагановіч: | |
| Л. Трусэвіч зь сям' ёй | 75 |
| Ул. Набагез | 100 |
| Р. Станкевіч | 50 |
| У сьветлую памяць Аліка Акановіча: | |
| Ю. Андрусышына | 30 |

*Ад нашага прадстаўніка ў Бэльгіі сп. А. Барысіка:*

| | |
|---|---|
| А. Арэшка | б.фр. 500 |
| Р. Занкоўскі | 1000 |
| Я. Жучка | 1000 |
| П. Барысік | 500 |
| З. Смаршчок | 2000 |
| І. Саўка | 1000 |
| Усяго | 6000 |
| | = ам.д. 198 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| І.А. | ам. дал. 100 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| Ю. Кіпель | 50 |
| П. Скепка | 50 |
| Ю. Стагановіч | 50 |
| І. і Я. (замест кветак на магілу Ч. Найдзюка) | 50 |
| а. В. Андрэюк | 40 |
| А. Кажан | 30 |
| В. Дубяга | 30 |
| В. Русак | 30 |
| Ю. Азарка | 30 |
| К. і Я. Вініцкія (замест кветак на магілу Я. Міхалюка) | 30 |
| А.Д. Клімовіч | 25 |
| Р. Кардонскі | 25 |

*Ад сп. М. Кастышына з Аўстраліі:*

| | |
|---|---|
| | аўс. д. 30 |
| з продажу газэты | 45 |
| | = ам.д. 53,70 |

*Ад нашага прадстаўніка ў Аўстраліі сп. Р. Шайпака:*

| | |
|---|---|
| В. і Р. Шайпакі | аўс. д. 100 |
| З. Кадняк | 50 |
| А. Кукель | 50 |
| Ф. Лашук | 50 |
| М. Нікан | 40 |
| П. Гуз | 20 |
| У. Сідлярэвіч | 20 |
| Я. Барысевіч | 30 |
| І. Яшчанка | 20 |
| Я. Алёхін | 40 |
| А. Груша | 10 |
| Усяго | 420 |
| | = ам.д. 305,76 |

**Ахвяраваньне на Беларускіх Скаўтаў**

| | |
|---|---|
| К. Ворт | 50 |

## ДАЛЕЙШЫЯ АХВЯРАВАНЬНІ НА «КУРАПАТЫ»

| | |
|---|---|
| Др. Уладзімер Набагез | кан. дал. 135,84 |
| Кон Вортс (другі раз) | 135,84 |
| Волтер Сітнік | 67,92 |
| Др. Віталі Мілянцэвіч (Аўстралія) | 100,00 |
| Антон Маркевіч | 50,00 |
| Дп. Вітаўт й Вера Рамукі | 135,31 |
| Мікола Сьнежка | 66,86 |
| Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі | 211,51 |
| Разам | кан. дал. 903,28 |

19 ліпеня, 1995 году

Арганізацыйны Камітэт «Курапаты» выказвае шчырую падзяку ўсім ахвярадаўцам.

**ПАДЗЯКА**

Рэдакцыя «Беларуса» ўдзячная за газэтныя выразкі, якія ёй прыслалі: спсп. Ю. Найдзюк, В. Трыгубовіч, А. Надсон. К. Вініцкая, В. Рамук, К. Акула, Я. Арцюх, Б. Даніловіч, А. Баханчык, М. Раецкі, А. Маркевіч, А. Сільвановіч, А. Маўчун, В. Махнач, Л. Літаровіч.

---

## КУПАЛАЎСКІЯ ЧЫТАНЬНІ

**Паведамленьне**

Гродзенскі дзяржаўны ўнівэрсытэт імя Янкі Купалы сумесна зь Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь

праводзіць

**КУПАЛАЎСКІЯ ЧЫТАНЬНІ 3-5-га кастрычніка 1995 году**

Чытаньні праводзяцца ў ГрДУ імя Янкі Купалы й прымеркаваныя да 90-х угодкаў пачатку творчай дзейнасьці народнага песьняра. Плянуецца разгледзець і абмеркаваць наступнае кола пытаньняў:

— літаратурная спадчана Янкі Купалы ў яе сучасным асэнсаваньні;
— праблемы тэксталёгіі твораў Янкі Купалы;
— лінгвістычны аспэкт купалаўскай спадчыны;
— агульнагуманітарнае, культуралягічнае асэнсаваньне творчасьці Янкі Купалы;
— праблемы вывучэньня твораў народнага паэта ў ВНУ і школах Беларусі.

Чытаньні мяркуецца зрабіць традыцыйнымі і рэгулярнымі.

Адрас аргкамітэту: 220023 г. Гродна, вул. Ажэшкі, 22 ГрДУ імя Янкі Купалы, кафедра беларускай літаратуры
Адказны сакратар: Петрушкевіч Ала Мікалаеўна
Тэлефоны для даведак: 44-80-70 (кафедра беларускай літаратуры)
47-09-64 (кафедра беларускай культуры)